**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер,
выдаецца на беларускай мове.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**Выдаецца са снежня 1994 года** 7 (515) 18 лютага 2010 года Кошт **свабодны**

**Масленіца**



Фота Ул. Скрабатуна

# Øî¢ áåëàðóø÷ûíû ¢ Øàðêî¢ø÷ûíå




■ Навіны **«Будзьма!»**

**8 лютага “Шоў беларушчыны” завітала ў невялікае мястэчка Шаркаўшчына, што на Віцебшчыне.**

У гэты дзень свята беларускасці адбылося адразу ў дзвюх школах райцэнтра: у першай і другой.

Выкладчыца беларускай мовы СШ №1 Алена Дзмітрыеўна Кобут запрасіла дыджэяў Адраджэння распачаць тыдзень беларускай мовы, які якраз пачынаўся ў школе.

Удзел у віктарыне ўзялі вучні 10“А” класа. Яны з задавальненнем адказвалі на пытанні вядоўцы і адгадвалі выканаўцаў хітоў са складанак беларускай музыкі.

“Ніколі б не падумала, што беларуская мова другая па мілагучнасці ў свеце. Прычым, гэта не прыдумка, каб павялічыць колькасць турыстаў, як, напрыклад, моцная і квітнеючая Беларусь па тэлебачанні. Таксама сёння я даведалася, што жыву амаль у цэнтры Еўропы”, зазначае Алена Губская і надзявае толькі што выйграную цішотку з лагатыпам “Будзьмы” і дадае: “Няхай такія шоў праводзяцца ў нашай школе часцей”.

Унікальнае мерапрыемства спадабалася і адміністрацыі школы, якая прапанавала правесці ШБ таксама і ў іншых класах.

У СШ №2 віктарына была арганізаваная для 7“А” і 8“А” класаў.

Нечакана паўдзельнічаць у віктарыне выказалі жаданне і некаторыя выкладчыкі. Удзельнікі падзяліліся на тры каманды: 2 каманды вучняў і каманда настаўнікаў. У нялёгкай барацьбе перамогу падзялілі каманда вучняў “Зубры” і каманда настаўнікаў “Бацькаўшчына”.

“Я выкладаю гісторыю Беларусі ўжо больш за 10 гадоў, але сёння я адкрыла для сябе некаторыя новыя моманты гісторыі і культуры. Ніколі б не падумала, што гісторыя хрысціянства, апісаная у Бібліі, так добра адлюстроўвае гісторыю маёй Беларусі. На віктарыне я ў гэтым пераканалася канчаткова. Таксама я пабачыла, што віктарына добры метад кантролю ведаў, з задавальненнем буду выкарыстоўваць яго ў далейшай працы”, дзеліцца ўражаннямі ўдзельніца віктарыны Вольга Арэх.

“Я цікаўлюся напрамкам року ў музыцы. Але ніколі не чуў па тэлебачанні беларускага року. Цяпер я ведаю: беларуская рок-музыкі адны з самых папулярных у свеце. Толькі не разумею, чаму іх нельга пачуць па тэлевізіі,” дзівіцца васьмікласнік Максім Баравік.

Пры канцы шоў у клас забеглі вучні з суседняга класа і, даведаўшыся, што адбываецца тут на працягу дзвюх гадзін, запрасілі правесці мерапрыемства і ў іх класе.

***На здымку:* Шчаслівы ўладальнік торбы Дзіма Курыловіч**

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ýíöûêëàïåäûÿ ðîäíàãà êðàþ

■Кастусь Александровіч

**Каб любіць сваю Радзіму, трэба добра ведаць яе, прароча зазначыў адзін з выдатнейшых філосафаў свету.**

Гэтым дэвізам кіраваўся вядомы настаўнік Пастаўскай СШ №1, пісьменнік і краязнаўца, уладальнік ганаровага звання “Чалавек года-2009 Віцебшчыны” Ігар Пракаповіч, калі працаваў над сваёй новай кнігай-падручнікам “Нароўны край Пастаўшчына”. Праца над ёй заняла амаль два гады і аб’ёмістае, добра ілюстраванае выданне на 304 старонках пабачыла свет у сталічным выдавецтве “Кнігазбор” пры падтрымцы раённага аддзела адукацыі. Прэзентацыя кнігі прайшла днямі ў чытальнай зале райбібліятэкі. Гэты напісаны з любоўю і з веданнем справы твор, па сутнасці сціслая энцыклапедыя расказвае пра Пастаўшчыну, яе цудоўную прыроду, багацейшую гісторыю краю, буйнейшых мястэчак, духоўную і матэрыяльную культуру і знаёміць са знакамітымі землякамі. Кніга паступіла ва ўсе школы раёна і будзе выкарыстоўвацца на ўроках, выхоўваць пачуццё гордасці за родны край. У 45-гадовага літаратара яна стала 16-й па ліку ў творчай скарбонцы аўтара, які толькі летась разам са сваімі выхаванцамі навуковага краязнаўчага таварыства “Ювента” здзейсніў 7 вандровак-даследванняў па розных мясцінах раёна.

Ãëûáîöê³ ðà¸í

# Ñåëÿäçåö ç êðûì³íàëüíûì äóøêîì

■Чэслаў Якубовіч

**Любымі спосабамі імкнуцца цяпер добра падзарабіць і жыць потым прыпяваючы асобныя нашы суайчыннікі.**

На гэту коўзкую сцяжынку трапіў цяпер ужо асуджаны афіцэр, былы начальнік тылавога забеспячэння папраўча-выпраўленчай калоніі з Глыбокага. Ён прыдумаў схему забраць сабе амаль паўтоны свежазамарожанага селядца, амаль трэцюю частку паступіўшай ежы для харчавання зняволеных. Разам са сваім падначаленым вывезлі скрадзеную рыбу да гаража свайго знаёмага, у якога радня займаецца прыватным гандлем. Пасля рэалізацыі селядца спажыўцам можна было б нядрэнна зарабіць ладную капейчыну. Аднак на бяду супрацоўніка калоніі пры выгрузцы тавара ля гаража яго калега, які праходзіў па гэтай крымінальнай справе ў якасці сведкі, трапіў на вока супрацоўнікам праваахоўных органаў. У выніку акрамя сораму і матэрыяльных страт гэта аперацыя “С” нічога не прынесла. У асуджанага афіцэра была канфіскавана ягоная іншамарка “Рэно”, на якой перавозілі селядзец, ён вымушаны будзе заплаціць буйны штраф у памеры 8,750 мільёнаў рублёў, што больш чым у 6 разоў болей коштуе скрадзенай рыбы. Ды і ў далейшым яшчэ 3 гады яму забаронена займаць дзе-небудзь кіруючыя пасады і быць матэрыяльна-адказнай асобай. Таксама на Глыбоччыне абяцае стаць рэзананснай і справа па рабаванню … гульнявых аўтаматаў групай на чале з адміністратарам установы.

# Ó Íàâàïîëàöêó ìàäýðí³çàâàíû áëîê áóäûíêà äç³öÿ÷àãà äîìà

■*Аляксандр Муджабаеў*

**Раней пасля заканчэння пачатковай школы выхаванцаў мясцовага дзіцячага дома адпраўлялі ў іншыя інтэрнаты Віцебскай вобласці.**

На адпаведную рэканструкцыю дзіцячага дома з гарадскога бюджэту было вылучана больш 130 мільёнаў рублёў. Яшчэ 20 мільёнаў - гэта грошы фундатараў, на якія была закуплена мэбля і ўсё астатняе «начынне» дзіцячых пакояў.

«Вельмі шмат дзяцей, якія паміж сабой брацкі і сястрычкі, - кажа дырэктар наваполацкага дзіцячага дома Анжэла Сівоха. - Даводзілася разлучаць блізкіх сваякоў: маленькія дзеці заставаліся ў нас, іх старэйшыя браты і сёстры з’язджалі ў школы-інтэрнаты».

У 2008 годзе былі занесены змены ў статут дзіцячага дома, па якім дзеці змаглі заставацца там да 18 гадоў. Цяпер у наваполацкім дзіцячым доме жывуць 80 дзетак ва ўзросце ад 3 да 12 гадоў. 16 з іх - гэта ўжо тыя, хто застаўся ў сваім доме і пасля заканчэння пачатковай школы.

«Ідзя пра тое, што выхаванцы Наваполацкага дзіцячага дома павінны заставацца ў нас у горадзе, прапрацоўвалася ўжо даўно, - распавяла начальнік аддзела адукацыі Наваполацкага гарвыканкама Святлана Драздова. - На ўзроўні вобласці нават было прынята рашэнне зрабіць прыбудову, новы спальны корпус. Але паколькі гэта праца вельмі дарагая, быў знойдзены іншы варыянт - мадэрнізаваць групавы блок для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту».

Äîêøûöê³ ðà¸í

# Ïàðàäàâàë³ñÿ çà ¢êðà³íñêàãà ë³äýðà

■Станіслаў Раманчук

**За прайшоўшым ва Украіне другім турам прэзідэнцкіх выбараў найбольш зацікаўлена сачылі ў невялічкай вёсачцы Янукі Докшыцкага раёна.**

Гэтыя ваколіцы паблізу Ваўкалацкага сельсавета двойчы ў 2003 і 2006 гадах наведваў тагачасны ўкраінскі прэм’ер Віктар Януковіч. Двухметровага росту палітык тады вельмі хацеў пабываць на радзіме сваіх продкаў, хоць там пражывала ўсяго 6 чалавек. Сярод іх былі школьнікі Вольга і Андрэй Януковічы, далёкая радня ўкраінскага лідэра. Яны двойчы былі ў гасцях у Кіеве, адночы цэлы месяц па ягонаму запрашэнню адпачывалі ў вядомым дзіцячым цэнтры ля мора “Артэк” пры садзеянні пасольства Украіны ў Беларусі. Дарэчы, новы кіраўнік суседняй краіны выйшаў з простай рабочай сям’і і выбіўся ў лік вядомых дзеячаў свету. Наогул, увесь шматлікі род Януковічаў людзі працалюбівыя і простыя. Падчас першага свайго прыезду Віктар Януковіч наведаў мясцовыя могілкі, усклаў там вянок да галоўнага крыжа, крыху пагасцяваў са сваімі землякамі за святочным сталом у вясковай хаце. А вось падросшыя дзеці пакінулі Янукі, дзяўчына стала барменам у санаторыі “Нарачанскі бераг”, а яе брат заканчвае тэхнічны каледж. Ды і ўкраінска-беларускія адносіны павінны быць сяброўскімі, маючы такія карані.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 18.02.10 | | | | пятн.19.02.10 | | | суб. 20.02.10 | | нядз.21.02.10 | | пн. 22.02. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | - | - |
| Тэмпература, °C | -11 | -10 | -6 | -6 | -4 | -3 | 0 | 0 | 0 | +1 | 0 | -1 | -4 |
| Ціск, мм | 745 | 744 | 743 | 742 | 742 | 741 | 740 | 738 | 733 | 731 | 730 | 735 | 739 |
| Вільготнасць, % | 84 | 91 | 82 | 90 | 91 | 94 | 87 | 95 | 88 | 97 | 89 | - | - |
| Вецер м/сек | Ю-В 2 | Ю-В 2 | Ю-В 1 | С-В 2 | С-В 2 | Ю-В 3 | Ю-В 3 | Ю-З 2 | Ю-В 3 | Ю-В 2 | С-В 1 | С-З 6 | С-З 5 |

# Äçåíü çà äí¸ì

**Вынік нядаўна дасягнутых нафтавых пагадненняў пад ціскам Крамля не задаволіў нашу краіну. Дзяржаўны бюджэт Беларусі, па падліках экспертаў, страціць сёлета з-за ўведзеных мытных пошлін 2,5-3 мільярды долараў, якія мы вымушаны будзем аддаваць Расіі. Наўрад ці ў нас патаннее цяпер паліва на АЗС, хоць суседзі поўнасцю паставілі нафту беларусам без пошлін для ўнутраных патрэб. Гэта азначае, што бензін на айчынных запраўках мог бы стаць дзешавейшым на 30 %. Для недзяржаўных АЗС новыя ўмовы паставак нафты зрабілі іх дзейнасць стратнай.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***Канада.*** Упершыню ў гісторыі ўрачыстая цырымонія адкрыцця зімовых Алімпійскіх гульняў у Ванкуверы прайшла ў закрытым памяшканні з удзелам 4 тысяч артыстаў.

***Украіна.*** Усе міжнародныя назіральнікі ад АБСЕ, Еўрапарламента і Савета Еўропы станоўча ацанілі правядзенне 2 тура "дэмакратычных і празрыстых" прэзідэнцкіх выбараў.

***Гаіці.*** Згодна новых дадзеных колькасць ахвяр магутнага землятрусу перавысіла афіцыйна больш 230 тысяч чалавек, але многія целы загінуўшых усё яшчэ пад заваламі будынкаў.

***Румынія.*** Прэзідэнт краіны Траян Бэсеску заявіў аб падтрымцы амерыканскіх планаў размяшчэння да 2015 года новых ракет перахопшчыкаў "SM-3", нацэленых супраць Ірана.

***Кітай.*** Галоўнай аўтамабільнай дзяржавай свету стала КНР, дзе летась выпусцілі 13,8 млн. аўтамабіляў усіх тыпаў, кітайцы найбольш выпусцілі і прадалі і легкавых аўто.

***Германія.*** Да рэкордный за чвэрць стагоддзя адзнакі на 9 % знізіліся ў краіне летась пад час крызісу цэны на ўсе імпартныя тавары, а на малакапрадукты нават на 11,4 %.

***Кіпр.*** Генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун выказаў упэўненасць у тым, што ўрады паўднёвай і паўночнай частак вострава дамовяцца аб аб'яднанні сваёй краіны.

***Грузія.*** Стратэгічны партнёр краіны ЗША, як і абяцаў, выдаў грузінскім уладам дапамогу ў памеры 1 млрд. USD, ён падтрымлівае грузін у канфлікце з сепаратыстамі з Асеціі.

***Карэя.*** Супрацоўнік дыпмісіі КНДР у Эфіопіі ўцёк сюды і папрасіў упершыню палітычны прытулак, дагэтуль карэйцы прынялі 17 тысяч уцекачоў з напоўгалоднай краіны-суседкі.

***Саудаўская Аравія.*** За карыстанне мабільным тэлефонам з камерай суд прыгаварыў да 90 удараў плёткай і 2 месяцаў турмы 13-гадовую школьніцу па даносе дырэктара школы.

***Туркменістан.*** Улады выразшылі знесці 63-метровы манумент з 12-метровай пазалочанай статуяй былога Туркменбашы С. Ніязава, культ ягонай асобы пайшоў на спад у краіне.

***ЗША.*** Рэкордныя даходы ад прадаж толькі аперацыйнай сістэмы "Windows 7" вядомай карпарацыі "Microsoft" склалі за апошнія тры месяцы суму больш 19 млрд долараў.

***Швейцарыя.*** Па меркаваннях бяспекі трымалася ў сакрэце месцазнаходжанне Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі на кароткачасовым адпачынку на адным з швейцарскіх курортаў.

***Германія.*** Улады краіны нарэшце прымусілі працаваць 54-гадовага А. Дзюбеля, які 36 гадоў жыў на розныя дапамогі па беспрацоўю і атрымаў ад дзяржавы 300 тыс. еўра.

***Кітай.*** Па новаму закону кітайцам за паяданне мяса кошак і сабак пагражае штраф да 735 USD і 15 сутак арышту, гэты законапраект бурна абмяркоўваўся на працягу 4 месяцаў.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** Кіраўнік аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Л. Заіка прапанаваў змяніць урад, калі пасля ўступлення ў Мытны саюз у Беларусі не патанеюць бензін, газ, камунальныя цэны.

***Мазыр.*** З-за адмовы расійскіх кампаній ад паставак нафты ў студзені Мазырскі НПЗ экспартаваў толькі 295 тыс. тон нафтапрадуктаў супраць 941 тыс. тон месяцам раней.

***Гродна.*** У горадзе на рацэ Нёман пачалі будаўніцтва самага вялікага і высокага маста ў Беларусі над узроўнем вады 27 метраў, ён будзе лідэрам і па праезнай частцы.

***Мінск.*** Па выніках працы ў студзені бюджэт краіны недаатрымаў больш 200 млрд. рублёў, што ставіць пад пагрозу выкананне паказчыкаў росту эканомікі і зарплаты 500 долараў.

***Слуцк.*** У горадзе вырашылі правесці ўслед за "Дажынкамі" Свята бульбы Мінскай вобласці, яе вытворчасць летась у Беларусі знізілася амаль на 50 % да 7,4 млн. тон.

***Мінск.*** У Беларусі ўвядуць штрафы за ўжыванне алкаголю на рабочых месцах і будуць унесены змены ў кантрактную сістэму найму для захавання гарантый працаўнікоў.

***Брэст.*** У вобласці, як і на Міншчыне, летась быў значны рост выпадкаў гібелі людзей на вытворчасці, па Беларусі ў 2009 годзе загінулі на працоўных месцах 203 работнікі.

***Магілёў.*** Экстрэмальна моцны снегапад зноў засыпаў ноччу снегам абласны цэнтр і вобласць, дарожнікі проста не паспявалі расчышчаць вуліцы нават у цэнтры горада.

***Пінск.*** За хабар, злоўжыванне ўладай былога галоўнага санітарнага ўрача раёна Івана Валіцкага асудзілі на 3,5 гады турмы з канфіскацыяй маёмасці пад 1 млрд. рублёў.

***Мінск.*** У сталіцы пачалі праектаваць трэцюю лінію метро ў накірунку плошчы Казінца, якую будуць узводзіць падземным спосабам пад мноствам будынкаў і пад аэрапортам.

***Ваўкавыск.*** Бізнесмен з Расіі купіў на аўкцыёне за 307 млн. рублёў палаца-паркавы ансамбль у вёсцы Краскі і збіраецца тут жыць пасля аднаўлення панскай сядзібы.

***Гродна.*** Тытунёвая фабрыка "Нёман" у лютым прыпыніла выпуск ліцэнзійных цыгарэт па дзеючаму кантракту з фірмай "Брыціш-Америкен Тобакко Трэйдзінг Компані".

***Бяроза.*** Краязнаўца Мікалай Пейган выявіў у архівах, што продкі вядомага акцёра і барда У. Высоцкага паходзяць з мясцовай вёскі Сялец, дзе нарадзіўся і жыў яго прадзед Шлома.

***Мінск.*** Рада старэйшага Саюза беларускіх пісьменнікаў, заснаванага ў 1934 г. Я. Купалай і Я. Коласам, запатрабавала ад улад спыніць пераследаванні і рэпрэсіі супраць сваіх членаў.

***Жодзіна.*** За адмову браць у рукі зброю ў арміі па рэлігійных пераканаwннях суд пакараў на 3 месяцы арышту Івана Міхайлава, ён патрабуе прызваць сябе на альтэрнатыўную службу.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Віцебск.*** Пры акадэміі ветэрынарнай медыцыны адкрылася сучасная лабараторыя маніторынгу якасці сельгаспрадукцыі па стандартах, уведзеных у Еўропе і Расіі.

***Полацк.*** Спад вытворчасці на вядучым прадпрыемстве горада "Шкловалакно" склаў летась 18,6 %, па вобласці правалілі год 12 з 27 заводаў Міністэрства прамысловасці.

***Наваполацк.*** Супраць трох індывідуальных прадпрымальнікаў завялі крымінальную справу за парушэнні аўтарскіх праvоў, гандаль кантрафактнымі фільмамі і дыскамі.

***Віцебск.*** За апошнія 10 гадоў на Віцебшчыне рэзка, на трэць скарацілася пагалоўе жывёлы на асабістых панадворках насельніцтва да 35 тысяч галоў і вытворчасць малака і мяса.

***Чашнікі.*** Супраць дырэктара, галоўнага бухгалтара і галоўнага ветурача КУСХП "Чырвоналукскае" распачалі крымінальную справу за прыпіскі і крадзеж грошай з касы.

***Сянно.*** У новым Доме культуры аграгарадка Ходцы прайшла выставафорум прадукцыі прадпрыемстваў раёна, дзе паказалі нават вуллі для пчол па італьянскай тэхналогіі.

***Віцебск.*** Абласны Саюз дызайнераў выршыў уручыць лапаць устаноwе, на якой вісіць самая бязгуздая і неэстэтычная шыльда, лепшых наадварот адзначыць прэміямі.

***Расоны.*** Цудоўны аб'ект прыдарожнага сервісу прыватнае кафэ "Карнет" на 20 пасадачных месц адкрыўся ля вёскі Юхавічы на трасе Лепель-Полацк-граніца Расіі.

***Полацк.*** У культурнай сталіцы Беларусі гарвыканкам і рэктарат дзяржуніверсітэта вырашылі 1 верасня адкрыць новы помнік студэнту, тут паўстала раней шэраг скульптур.

***Падсвілле.*** На ўрачыстасцях у аграгарадку з нагоды 70-годдзя Глыбоцкага раёна зноў гаварылася аб неабходнасці завяршэння рэканструкцыі гарстадыёна і Дома культуры.

***Верхнядзвінск.*** Паблізу вёскі Маразы невядомыя абсталявалі 3 незаконныя вышкі для палявання і падкормачныя пляцоўкі для жывёл, тут было забіта 5 дзікіх кабаноў.

***Лепель.*** Да 20-годдзя народнага літаратурна-музычнага клуба "Выток" прайшла літаратурная вечарына, выйшаў і зборнік паэзіі членаў клуба "Прызнанне ў любові".

***Наваполацк.*** У мясцовым Лядовым палацы адбыліся культурна-азддараўленчы фестываль "У гасцях у пчолкі" і акцыя "Дабрыня выратуе свет" па збору рэчаў для сацпрытулкаў.

***Шуміліна.*** У раёне найменей у Віцебскай вобласці, толькі чвэрць насельніцтва, як паказаў маніторынг грамадскай думкі, поўнасцю давяраюць дзеянням мясцовай міліцыі.

***Полацк.*** На адным з прыгажэйшых азёр раёна на працягу двух выходных дней прайшоў другі этап чэмпіяната Беларусі па лоўлі рыбы на зімовую блясну.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

# 556.000-

на столькі чалавек, па папярэдніх дадзеных праведзенага перапісу, істотна скарацілася колькасць насельніцтва Беларусі на працягу толькі 10 апошніх гадоў. Што і казаць, на рубяжы новага тысячагоддзя наша краіна сутыкнулася з трывожнай з'явай вымірання нацыі ў мірны час. Хоць і быў аб'яўлены курс на пабудову "моцнай і квітнеючай" дзяржавы для народа, але па-ранейшаму ў нас дзетак нараджаецца няшмат, а вось старэйшыя пакаленні і не толькі шпаркімі тэмпамі пакідаюць гэты свет.

Як ні горка, але ў пачатку 90-х гадоў беларусаў было болей 10 млн. чалавек, а зараз жыхароў стала на ўзроўні канца 70-х гадоў тагачаснай БССР. У тыя гады аднолькава шмат, дзесьці па 75 тысяч штогод нараджалася дзяцей у горадзе і на вёсцы. У далёкім 1970 годзе колькасць насельніцтва Беларускай ССР перавысіла 9 мільёнаў, а да Маскоўскай Алімпіяды праз 10 гадоў нас стала ўжо 9,6 млн. чалавек, нават крыху болей, чым цяпер. Аднак у той перыяд пачалі развівацца непажаданыя сацыяльна-эканамічныя працэсы.

У пасляваенны гісторыі Беларусі стала расці колькасць насельніцтва, але тады хоць пік нараджальнасці дасягнуў за год 170 тысяч немаўлят, моладзь стала актыўна пакідаць сельскую мясцовасць, не жадаючы заставацца працаваць у калгасах, старалася любым чынам уладкавацца ў гарадах. Тады яшчэ не такімі тэмпамі, як цяпер, паміралі старыя людзі на вёсцы і ў кожнай сям'і выхоўвалася па некалькі дзяцей. Праўда, у 1980 годзе, па дадзеных дэмографаў, сярод 154 тысяч нарадзіўшыхся дзетак толькі трэць прыйшлася на глыбінку і ўпершыню было зафіксавана натуральнае змяншэнне жыхароў вёскі.

А вось малыя гарады, райцэнтры, абласныя цэнтры, не кажучы ўжо пра сталіцу Мінск, куды валам лезе народ і цяпер, раслі шпаркімі тэмпамі. Зараз усё наадварот, за выключэннем беларускай сталіцы, якая за дзве "пяцігодкі" вырасла яшчэ на 148 тысяч мінчан. У мінулым годзе дэмаграфічная сітуацыя была крыху лепшай, чым некалькі гадоў назад. Летась у краіне паявіліся на свет амаль 110 тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак, але сярод іх вясковых немаўлят толькі крыху больш 26 тысяч чалавек. Увогуле ў гарадах Беларусі зараз пражывае каля 7,1 мільёна чалавек (рост за мінулы год на 91 тысячу), а ў сельскай мясцовасці застаецца жыць ужо меней 2,4 мільёна жыхароў.

У гісторыі суверэннай Беларусі з 1993 года стала ўпершыню смяротнасць перавышаць нараджальнасць. І вось ужо на працягу 17 гадоў уладам краіны ніяк не ўдаецца вылезці з медыка-дэмаграфічнага крызісу. Працягласць жыцця беларусаў нашмат меней развітых краін свету і не дасягае нават 70 гадоў. Яшчэ больш сумны гэты важны інтэгральны паказчык стану здароўя нацыі сярод мужчынскага насельніцтва. Неўзабаве беларускім дзяўчатам не будзе магчымасці знайсці сабе суджанага з-за малой колькасці і проста адсутнасці жаніхоў.

Дэмаграфічны патэнцыял сельскай мясцовасці проста мізэрны, там страцілі кожнага пятага жыхара нягледзячы на аграмоцтвы ўкладанні ў АПК, узвядзенне і абуладкаванне тысячы аграгарадкоў. За мінулыя 10 гадоў на вёсцы памерла, удумайцеся, 647 тысяч чалавек і там засталося 2,4 млн. жыхароў. Зараз ужо і малыя гарады адчуваюць дэфіцыт рабочых рук і кваліфікаваных спецыялістаў, бо няма прытоку моладзі з сельскай мясцовасці. Ужо і спецыялісты папярэджваюць, што Лядовыя палацы там не будуць запоўнены, больш актуальней стаіць задача будаваць сацыяльныя дамы-прытулкі для адзінокіх састарэлых грамадзян.

У гэтых умовах, наколькі дазваляюць дзяржаўныя рэсурсы, прыярытэтам дзяржаўнай сацыяльнай палітыкі сталі ахова мацярынства і дзяцінства, умацаванне інстытута сям'і. Інакш нельга дабіцца дэмаграфічнага пад'ёму, росту колькасці дзяцей у маладых сем'ях. У гэтым годзе завяршаецца тэрмін дзеяння Нацыянальнай праграмы дэмаграфічнай бяспекі на 2006-2010 гады, распрацаванай у адпаведнасці з падобным Законам. Верагодна, яна будзе прадоўжана і надалей. І ў далейшым дэмаграфічныя праблемы будуць вырашацца ў залежнасці ад таго, наколькі хутка знойдуць беларусы выхад з крызісу. Пакуль жа нават для службы ў арміі годныя па стану здароўя толькі 41 % прызыўнікоў...

# Ён хацеў з'есці маіх курэй!



Фота Ул. Скрабатуна

Ён прыляцеў і сеў на плоце побач з куратнікам. Хацеў з'есці маіх курэй, якія пасля моцных маразоў і доўгага знаходжання ў катуху, выйшлі пабачыць белы свет. Не пашанцавала! З будкі выбег сабака і загаўкаў. Куры схаваліся ў куратніку. Няпрошаны госць пераляцеў на бліжэйшую сліву.

Вераб'я ад сініцы я адрозню і шмат яшчэ якіх птушак. Аднак, такую птушку бачу зблізку і фатаграфую ўпершыню. Хто гэта? Сокал? Каршун? Ястраб? Зразумела, не арол!

Зрэшты, не так ужо і важна. Палі пакрытыя тоўстым слоем снега, а значыць у мышэй ёсць добры схоў. Зайцы апранулі белае футра, не заўважыш сярод сумётаў! Сцюдзёна і голадна. Сакаліныя за харчаваннем прыляцелі ў горад. Тут і ката можна задраць, або невялікага сабаку. Раптам і курачына перападзе. Наогул, у горадзе шмат чаго ёсць таго, чаго няма ў лесе ці на разлеглым калгасным полі! Напрыклад, іншыя пернатыя: галубы, галкі, вераб,і…

Памятаецца, пару гадоў таму, увесну, падобная птушка зрабіла вялікі перапуд у цэнтры Глыбокага, калі раптам апынулася сярод чарады чаек. Як ні мітусіліся чайкі, блытаючы драпежную птушку, яна, усё ж, выбрала канкрэтную ахвяру і толькі за ёй палявала. Як ні ратавалася чайка, якія мудрагелістыя ўвёртванні не рабіла, апынулася, у рэшце рэшт, у кіпцюрах паляўнічага.

Зрэшты, на тое і шчупак у сажалцы, каб карась не драмаў!

*Ул. Скрабатун.*

# Возера Чачалі здалі ў арэнду ці прадалі?

■ **Алесь Гай**

**Гэтая тэма пра возера Чачалі набыла аскоміну ў чытачоў "Вольнага Глыбокага". У свой час аўтар гэтых радкоў апублікаваў у "ВГ" два артыкулы, а таксама перадаў у рэдакцыю матэрыял рыбаловаў-аматараў.**

Пачну з таго, што рыбаловы-аматары паважаюць А.В. Протаса, начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, за яго прынцыповасць, за яго барацьбу з ляснымі браканьерамі, а таксама браканьерамі-паляўнічымі і браканьерамі- рыбаловамі.

Бачна, што гэты чалавек любіць сваю работу, сваю справу і практычна працуе без выхадных і аддае свой вольны час, каб быў парадак ў лесе і на вадаёмах.

Аднак, некаторыя радкі ў артыкуле А.В. Протаса, які быў апублікаваны у "ВГ" № 6 здзівілі шмат якіх чытачоў і рыбаловаў-аматараў.

Хацелася б яшчэ раз нагадаць гэтыя радкі:

*"Паведамляем, што возера Чачалі Глыбоцкага раёна перададзена ў арэнду ПП "Аграбізнескансалт", г. Мінск для арганізацыі прамысловага і платнага аматарскага рыбалоўства. Паводле палажэння аб арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства на возеры Чачалі Глыбоцкага раёна лоўлю рыбы можна праводзіць толькі пры наяўнасці пуцёўкі. Паводле правілаў рыбалоўства арандатару рыбалоўных угоддзяў дазваляецца збіранне платы за рыбалоўства без папярэдняга правядзення зарыблення вадаёма".*

Прычына ў тым, што яшчэ ўвосень гэты арандатар ставіў сеткі для прамысловага рыбалоўства на возеры Чачалі і ў той час патрабаваў плату ў рыбаловаў-аматараў. На "гарачую лінію" і асабіста А.В. Протасу было нямала званкоў аб тым, што арандатар, на думку рыбакоў, практычна займаецца браканьерствам.

Аляксей Віктаравіч Протас адказваў, прыкладна, так:

"У мяне няма акта зарыблення возера Чачалі, таму плата арандатарам не павінна браца". Нас усіх вельмі здзівіла, што паважаны А.В. Протас знайшоў цяпер нейкія іншыя правілы рыбалоўства – *"арандатар мае права збіраць плату за рыбалоўства без папярэдняга зарыблення вадаёма"*. Цікава, чаму гэтыя правілы раптам нехта памяняў. Атрымліваецца, не ўклаўшы ні капейкі, арандатар можа займацца прамысловым і платным аматарскім рыбалоўствам?

Я выслухаў каментары знаёмых рыбаловаў і гэтыя каментары не магчыма змясціць на старонках газеты.

Адзін рыбалоў, які сорак гадоў займаецца рыбалкай, выказаў такую думку: "Магчыма, на А.В. Протаса "націснулі" і ён пайшоў на папятную? Змяніў сваю пазіцыю. Чачалі не аддалі, а прадалі ў арэнду".

Іншы рыбак сказаў: " Няўжо, пасля такой перадачы ў арэнду, ад гэтага папоўніцца раённы бюджэт?"

Добра, што былая раённая ўлада не прадала камусьці ў арэнду Цэнтральную плошчу! Тут жа паркуецца ад 40 да 50 машын. Уезд – 1000 рублёў, выезд – 2000 рублёў!

Паважаны Аляксей Віктаравіч, вось як растлумачыць рыбаловам-аматарам, што ўсё, што адбываецца з возерам Чачалі, – законна? Адкуль узялася гэтая мінская арганізацыя, якая за 160 кіламетраў ад сталіцы ўзяла ў арэнду возера Чачалі? Калі верыць Вам, то гэта – рашэнне Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэту.

Хацелася б звярнуцца да новага старшыні райвыканкама А.В. Морхата і тых, хто прымае падобныя рашэнні, вельмі ўзважана адносіцца ў прыманні рашэння, калі пытанне адносіцца аб перадачы возера ў арэнду, якое знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці ад горада Глыбокае.

Вось і ў "Весніку Глыбоччыны" прачытаў абвестку: "У філіял "Чачалі" ПП "Аграбізнескансалт" тэрмінова патрабуецца адміністратар з веданнем рыбалоўнай справы".

Ці застанецца рыба ў возеры Чачалі?

**Ад рэдакцыі.** Не ўсе рыбаловы-аматары маюць аўтамашыны, каб адпраўіцца на рыбалку, скажам, на Браслаўшчыну. Нават тыя, хто мае аўтамабілі, не заўсёды знойдуць сродкі (грошы на бензін), каб адправіцца ў далёкую вандроўку. Досыць вялікая частка глыбоцкіх рыбаловаў, а можа, нават, і 90% з іх, рыбачаць на гарадскіх азёрах: Кагальнае, Вялікае, Падлазнае, Мушкат, Забельскае. Сеў на гарадскі аўтобус, 15 хвілінаў і ты – на возеры Вялікім, а то і на Мушкаце. Прыпынкі – насупраць азёраў! Зручна.

Не мала тых, хто хацеў бы лавіць рыбу і на возеры Чачалі. Усё ж, блізка ад горада. Можна на роварах даехаць, ды і пешшу – не вельмі далёка. Возера Чачалі адзін з самых вялікіх вадаёмаў у непасрэднай блізкасці ад гарадской мяжы. Яны мала ўступаюць па плошчы возеру Вялікаму ў Глыбокім. Натуральна, яшчэ не адзін год не сціхнуць спрэчкі: трэба было, альбо не, перадаваць возера Чачалі ў арэнду. Было б возера Чачалі за 30 кіламетраў ад Глыбокага – не было б ні якіх пытанняў. А тут – пару кіламетраў ад гарадской мяжы.

Мы патэлефанавалі Аляксею Віктаравічу Протасу і паведамілі аб будучай публікацыі. Сярод іншага, Аляксей Віктаравіч заўважыў, каб рыбакі-аматары ўважліва чыталі ўсе яго публікацыі ў газетах, то не было б розных пытанняў, і, асабліва, розных здагадак, тыпу "на яго націснулі і ён адступіў". На тым жа возеры Чачалі вольна могуць лавіць рыбу пенсіянеры, "афганцы", няпоўнагадовыя.

Зрэшты, гэтая публікацыя не застанецца без каментара самога А.В. Протаса.



# Падведзеныя вынікі працы ўсіх міжраённых інспекцый

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**11 лютага 2010 года адбылася калегія Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь на якой былі падведзеныя вынікі працы ўсіх міжраённых інспекцый рэспублікі за 2009 год і пастаўленыя задачы на бягучы год.**

У 2009 годзе ўсімі інспекцыямі рэспублікі выяўлена каля 14 тысяч парушэнняў, канфіскавана 10,5 тысячы прылад пазапраўнай лоўлі рыбы, 32 электралавільныя ўстаноўкі, 23 тоны пазапраўна здабытай рыбы, больш 830 адзінак агнястрэльнай зброі, у тым ліку 350 адзінак незарэгістраванай зброі, больш 20 тон мяса дзікіх жывёлін, па прадстаўленнях узбуджана 567 крымінальных спраў, спагнана ў прыбытак дзяржавы штрафаў на суму каля 3,2 мільярдаў рублёў, прад'яўлена іскаў аб пакрыцці шкоды, прычыненага прыродным рэсурсам, на суму звыш 2,4 мільярда рублёў.

За 2009 год супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі выяўлена 367 правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, 11 матэрыялаў накіравана ў следчыя падраздзяленні органаў унутраных спраў для дачы прававой ацэнкі дзеянням парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, па 9 матэрыялах узбуджаны крымінальныя справы і вінаватыя панеслі суровае пакаранне, да крымінальнай адказнасці прыцягнутыя 19 чалавек.

Усяго перарвана 198 парушэнняў правіл рыбалоўства, 29 фактаў крадзяжу сажалкавай рыбы, 32 парушэнні правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі, 90 парушэнняў правіл лесакарыстання, 18 іншых парушэнняў. У парушальнікаў канфіскавана 132 браканьерскія сеткі, агульнай даўжынёй 6 км.320 метраў, 40 іншых прылад рыбалоўства, 225 кг пазапраўна здабытага мяса дзікіх жывёлін, 265 кг пазапраўна здабытай рыбы, 85 кг выкрадзенай сажалкавай рыбы, 15 адзінак агнястрэльнай зброі, з іх 7 адзінак незарэгістраванай зброі, 82 м.куб. пазапраўна нарыхтаванай драўніны.

**За добрасумленныя адносіны да сваіх службовых абавязкаў намеснік начальніка Глыбоцкай міжрайінспекцыі Федзічкін Аляксандр Аляксандравіч занесены на дошку Пашаны Дзяржаўнай інспекцыі.**

Па выніках працы за мінулы год Глыбоцкая міжрайінспекцыя заняла 12 месца сярод усіх інспекцый рэспублікі і 3 месца ў вобласці. За добрасумленныя адносіны да сваіх службовых абавязкаў намеснік начальніка Глыбоцкай міжрайінспекцыі Федзічкін Аляксандр Аляксандравіч занесены на дошку Пашаны Дзяржаўнай інспекцыі, абвешчаныя падзякі дзяржаўнаму інспектару Стоцку Ігару Мікалаевічу і рабочай па комплексным абслугоўванні Бадун Ноне Міхайлаўне, а таксама за актыўны ўдзел у рэйдавых мерапрыемствах і арганізацыю ўзаемадзеяння з інспекцыяй абвешчаная падзяка старэйшаму інспектару дазваленчай працы ООПП Глыбоцкага РАЎС капітану міліцыі Кацейка Вадзіму Антонавічу.

# Уэйн Грэцкі: «Я з дзяцінства чуў беларускую мову»

**Пра гэта самы вядомы хакеіст XX ст., які за 61 усталяваны ў Нацыянальнай хакейнай лізе рэкорд атрымаў мянушку Вялікі, распавёў газеце «КП в Беларуси» падчас свайго візіту ў Мінск.**

**Уэйн Грэцкі прыязджаў у беларускую сталіцу ў якасці госця на «Матч усіх зорак КХЛ» 30 студзеня 2010 г..**



У Галіны Салдаценкавай са Свіслачы і Уэйна Грэцкі – агульны дзед. У іх нават рысы твару падобныя.

# Івонка Сурвіла: «Для Беларусі словы Грэцкі прынеслі больш за любы медаль»

Дзякуючы канадскаму хакеісту Уэйну Грэцкі мільёны людзей пачулі пра Беларусь, лічыць старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

На адкрыцці зімовай Алімпіяды-2010 у Ванкуверы вялікаму канадскаму хакеісту Уэйну Грэцкі было даверана запаліць алімпійскі агонь. У інтэрв'ю «Радыё Свабода» старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла распавяла, што дзякуючы Грэцкі пра Беларусь даведаліся мільёны людзей з усяго свету, якія глядзелі ў гэты дзень адкрыццё Алімпіяды.

«Хачу падзяліцца сваёй найбольшай радасцю ад першага дня Алімпіяды ў Ванкуверы. Лепшы канадскі хакеіст Уэйн Грэцкі быў запрошаны запаліць алімпійскі агонь. Дзяды Грэцкі прыехалі ў Канаду з Беларусі.

Выпадкова ўключыла тэлевізар, і бачу - Грэцкі дае інтэрв'ю канадскаму журналісту. У канцы журналіст пытаецца, ці не сумуе Грэцкі па часе, калі ён выходзіў на лёд. Часам шкадую, сказаў Грэцкі, але цяперашняе маё жыццё мае шмат прыемных момантаў.

І адной са сваіх радасцяў Грэцкі назваў падарожжа ў Беларусь! Гэта чулі мільёны людзей у Канадзе і свеце. Для Беларусі словы Грэцкі, магчыма, прынеслі больш за любы медаль...», – сказала Івонка Сурвіла.

# Трамвайныя рэйкі могуць злучыць Полацк і Наваполацк

■ **Віталій ФЁДАРАЎ,**
«Рэспубліка»

Гэта стане магчымым, калі будзе пабудаваны новы мост праз раку Заходняя Дзвіна. Адпаведны праект ужо распрацоўваецца.

Прапанова аб'яднаць гарады праз трамвайны транспартны калідор неаднаразова абмяркоўвалася яшчэ ў часы СССР. Але толькі цяпер праект можа стаць рэальнасцю.

Дырэктар наваполацкага трамвайнага парка Сяргей Габлееў паведаміў, што толькі на будаўніцтва 4,5 кіламетра трамвайных рэек да будучага маста спатрэбіцца не менш чым 25 мільярдаў рублёў, а на ажыццяўленне ўсяго праекта – у разы больш.

# Дзяржкантроль Віцебшчыны за год спагнаў у бюджэт 13,7 млрд. рублёў

**Пры гэтым кантралёры Віцебскай вобласці за мінулы год у 2,4 раза скарацілі колькасць праверак.**

Хоць праверак стала менш, іх эфектыўнасць відавочна ўзрасла, піша па гэтай падставе «Народнае слова». Па выніках кантрольных мерапрыемстваў Камітэта дзяржаўнага кантролю па Віцебскай вобласці, за 2009 год у бюджэт спагнана 13,7 млрд. рублёў – гэта ў 1,6 раза больш, чым у 2008 годзе.

Амаль 1,7 тыс. чалавек прыцягнутыя да адказнасці, яшчэ для 15 пагарда законам скончылася стратай займаемай пасады. Упраўленнем Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю па Віцебскай вобласці ўзбуджана 201 крымінальная справа. 17 з іх адносяцца да катэгорыі карупцыі, 43 – да фінансавай сферы. Перарваная дзейнасць трох арганізаваных злачынных груп. Факты ўхілення ад выплаты падаткаў ляглі ў аснову 60 крымінальных спраў.



**На здымку:** курсанты М.Аляхновіч (злева) і А.Вярцінскі. Фота Я. Самсонава.

# Ёсць такая прафесія Радзіму абараняць

■ **Я. Самсонаў**

Позірк затрымаўся на маладых хлопцах у форме курсантаў ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, якія ішлі насустрач па вуліцы. Людзі ў вайсковай форме на вуліцах Глыбокага нячастая з'ява. А вось курсанты ваеннай акадэміі. Больш таго, у адным з іх пазнаў былога знаёмага, аднаго з герояў свайго ранейшага артыкула, выпускніка-выдатніка Плiскай СШ 2009 года. Павіталіся. Нязмушана завязалася размова.

– А я думаў, што ты Міхась пакрочыш бацькавай, ці ва ў сялякім разе матчынай сцяжынкай (бацька – старшыня калгаса, маці – дырэктар школы), а ты ў вайскоўцы падаўся? – паціскаючы ўжо адчувальную мужчынскую руку, спытаў аўтар гэтых радкоў.

– Кожны выбірае па сабе – адказаў мой знаёмы Міхась Аляхновіч – сапраўды маці ўгаворвала паступаць на ўніверсітэт, але з дзяцінства мяне прываблівала рамантыка вайсковай службы.

Кароткая даведка. Міхась Аляхновіч нарадзіўся ў вёсцы Мацюкова Глыбоцкага раёна. Закончыў Задарожскую базавую школу. Вучыўся ў патрыятычным класе СШ №1 г. Глыбокае. У 2009 годзе пасля заканчэння Плiскай СШ паступіў у ваенную акадэмію Рэспублікі Беларусь. Яго аднакурснік – Аляксандр Вярцінскі, ураджэнец вескі Казлоўшчына Пастаўскага раёна, разам з Міхасём вучыўся ў патрыятычным класе Глыбоцкай СШ №1 і пасля заканчэння цвёрда вырашыў абраць вайсковую прафесію.

Маючы выдатную адукацыйную, фізічную і псіхалагічную падрыхтоўку, змалку прывучаныя сур'ёзна і адказна адносіцца да любой справы, азы вайсковай навукі хлопцы асвойваюць лёгка і з задавальненнем.

**Я.С.:** Я не кажу пра ўсю моладзь, але ёсць «індывідыумы», якія не сурапць «адкасіць» ад арміі. Будучыя афіцэры павінны не толькі валодаць, але і ўмець выхоўваць у сваіх падначаленых такія якасці , як свядомасць, сумленне, эмацыйная раўнавага, пачуццё абавязку і адказнасці. З якіх крыніц, на вашу думку, гэта чэрпаецца.

**М.А.:** Першапачаткова выток – гэта бацькі, сям'я, школа. Затым грамадства і акаляючае асяроддзе. Зацікаўленасць да таго ці іншага самага чалавека ў вызначэнні галоўных накірункаў у жыцці. У мяне, напрыклад, ёсць мэта і выразна бачны шлях яе ажыццяўлення. Выдатныя цяперашнія настаўнікі – начальнік курса старэйшы лейтэнант Андрэй Мікалаевіч Герцык і камандзір узвода старэйшы лейтэнант Сяргей Мікалаевіч Варко дапамагаюць у здзяйсненні маіх планаў.

**А.В.:** Цалкам згодны з Міхасём. Спачатку, канешне, трошкі цяжкавата ўваходзіць у рытм спецыфічнага навучання. Але задавальненне над пераадоленымі цяжкасцямі, як бы гонар чаго ты варты, што ты ўжо можаш цяпер і ўпэўненасць у будучых поспехах, натхняюць.

У гэтым я вельмі ўдзячны свайму камандзіру ўзвода старэйшаму лейтэнанту Аляксандру Сяргеевічу Сікірыцкаму.

Напрыканцы, з нагоды набліжаючага Дня Абаронца Айчыны, застаецца персанальна павіншаваць Міхася, Аляксандра, іх камандзіраў і ўсіх, хто мае дачыненне да вайсковай службы з прафесійным святам. Няхай збудуцца іх мары на радасць бацькоў і на карысць Радзімы.

# Снегапады ў Беларусі пабілі стогадовыя рэкорды

**Міжземнаморскі цыклон прынёс у Беларусь вялікія снегапады. У Мінску гурбы выраслі на 10 см.**

У большасці раёнаў краіны за перыяд з 12 па 15 лютага вышыня снежнага покрыва павялічылася на 10-23 см, што складае прыкладна 30-60% месячнай нормы ападкаў, паведамляе БелТА.

Вышыня снежнага покрыва вагаецца ад 15 см у раёне метэастанцыі Палеская (Лунінецкі раён Брэсцкай вобласці) да 54 см у Полацку. У сталіцы вышыня гурбаў дасягае 43 см.

Так, у Брэсце вышыня снежнага покрыва дасягае 49 см, чаго за апошнія сто гадоў там не фіксавалася ні разу.

У Віцебску адзначаецца новы рэкорд вышыні снежнага покрыва за ўсе гады метэаназіранняў. Сёння ён складаў 52 см.

У Гродзенскай вобласці таксама снегапады перавышаюць паказчыкі некалькіх дзесяцігоддзяў. Вышыня снежнага покрыва ў Навагрудку перавысіла рэкорд 30-гадовай даўніны. У Гродне, не вытрымаўшы снежнай нагрузкі, абваліўся дах жылога дома, пабудаванага ў 1900 годзе. Плошча правалу склала 90 кв. м. З-за правалу даху апынулася пашкоджанай столь у кватэры на другім паверсе дома, дзе знаходзілася сям'я з трох чалавек. Ніхто з іх не пацярпеў.

Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь па валейболе (1-я ліга, 7-ы тур)

# ПЕРШЫ КРУГ ПРОЙДЗЕНЫ

**“Атлант-Д” (Паставы) –- “Металург” (Жлобін) - 3:0, 3:0**

1 дзень. 3:0 (25:13; 25:16; 25:19).

2 дзень. 3:0 (26:24; 25:21; 25:12).

Паставы. Фізкультурна-аздараўленчы комплекс.

**Суддзі:** Б. Пылянкоў (Магілёў), Д. Вярэнік (Мінск).

Галоўны суддзя – В. Грыгарэвіч (Гродна).

**“Атлант-Д”:** Клімюк, Рабека, Багачоў, А. Шылей (к), Юзвовіч, Вярбіцкі, Скараход, Д. Захарэвіч, Жалубоўскі, Зарэцкі, Варанец.

**“Металург”:** Варашылаў, Марчанка, Манько (к), Кузьмін, Карлоўскі, Клімовіч, Швец, Навалетаў, Удавенка. Бадроў.

У гэтым годзе валейбалісты з Пастаў правялі яшчэ чатыры матчы нацыянальнага першынства. Спачатку ў сярэдзіне студзеня каманда “Атлант-Д” выехала ў Гродна, дзе і спынілася ў адной гасцініц абласнога цэнтра. Калі летась госці са сваім сапернікам, мясцовым клубам “Легіён”, гулялі на пляцоўцы дзяржуніверсітэта, то сёлета прыйшлося ехаць за 15 км у пасёлак гарадскога тыпу Абухава. Там на базе вельмі багатай гаспадаркі месціцца гэта каманда, якая вельмі добра фінансуецца, папоўнілася шэрагам гродзенскіх валейбалістаў. Ва ўсялякім разе спартыўная зала ў аграгарадку дазваляе пасля рэканструкцыі праводзіць і матчы чэмпіянату Беларусі.

Абодва матчы праходзілі ва ўпартай, напружанай барацьбе. Праўда, у першым паядынку ў шэрагу спрэчных сітуацый суддзі з Магілёва былі на баку гаспадароў, што выбіла маладых пастаўчан з псіхалагічнай раўнавагі. У выніку яны саступілі гродзенцам з лікам партый 1:3. У паўторнай сустрэчы госці з Віцебшчыны заваявалі толькі адно ачко, а маглі і перамагчы. Яны выйгравалі пасля трох партый. У чацвёртай партыі пашкоджанне нагі атрымаў асноўны пасуючы пастаўскай каманды, кандыдат у маладзёжную зборную Беларусі Уладзімір Юзвовіч. Ён вымушаны быў сесці на лаўку запасных і страта аднаго з ключавых ігракоў зноў прывяла да паражэння з лікам партый – 2:3.

На чарговых дамашніх матчах пастаўчан зноў была перапоўнена зала, падтрымаць каманду знайшоў час і кіраўнік Пастаўскага раёна Віктар Гутараў. Перад пачаткам першай сустрэчы гледачы хвілінай маўчання ўшанавалі памяць трагічна загінуўшага 10 гадоў назад у аўтамабільнай катастрофе былога старшыню райвыканкама Васіля Чэпіка, які быў адным з ініцыятарам пабудовы спорткомплексаў у райцэнтры і ў гарпасёлку Варапаева.

Балельшчыкаў парадавала, што пакрыху аднавіўся пасля атрыманай у пачатку сезона траўмы нагі адзін з лідэраў нападзення Яўген Багачоў. Ён выйшаў на замену ў канцоўцы паядынка і правёў некалькі выніковых атак. Губляць ачкі ў заключных сустрэчах першага круга чэмпіяната Беларусі дома гаспадары проста не мелі права. Як высветлілася, іх сапернік цалкам уяўляе сабой маладую перспектыўную каманду. Усе прыехаўшыя на шыкоўным аўтобусе юнакі са Жлобіна ва ўзросце 17 гадоў ростам вышэй 190 см, а двое з іх нават па 2 метры вымахалі. Праз некалькі гадоў на іх разлічвае галоўная каманда вышэйшай лігі, адзін з лідэраў беларускага валейбола.

Аднак хутка стала відавочна, што пастаўчане пакуль мацней выглядаюць за апанентаў. Асабліва яны перайгравалі жлобінцаў пры гульні на блоку. Па чарзе выніковa атакавалі ў гаспадароў усе ігракі стартавай шасцёркі, як заўсёды надзейна падстрахоўваў партнёраў на задняй лініі лібера каманды Аляксандр Зарэцкі. Такім чынам, меней чым за гадзіну гульні “Атлант-Д” атрымаў чарговую лёгкую перамогу, даўшы магчымасць праявіць сябе на пляцоўцы і запасным ігракам. На жаль, толькі ў канцы першага матча ў пастаўчан траўму нагі атрымаў Дзяніс Захарэвіч, прыйшлося яму накласці гіпс на траўміраваныя звязкі нагі.

На паўторную сустрэчу госці выйшлі на пляцоўку ў новай чырвонай форме і ледзь не зрабілі сенсацыю. У гаспадароў па службовых прычынах не выйшаў на пляцоўку таксама і капітан каманды, супрацоўнік сталічнага ДАІ Алег Шылей. У аслабленым складзе спачатку пастаўчане ўвесь час саступалі ў ліку жлобінцам, стаў прыкметна хваляваць настаўнік “Атланта-Д”. А госці пасапраўднаму ”завяліся” на пляцоўцы, у іх у нядзелю стала многае ўдала атрымлівацца і не выпадкова аднойчы ў канцоўцы стартавай партыі лік стаў 24:23 на іх карысць.

У гэты адказны момант ігрок “Металурга” з-за празмернага хвалявання не здолеў падаць сваю падачу і больш вопытны сапернік адразу скарыстаўся памылкай, без раскачкі перамог у першай партыі. Да сярэдзіны наступнай партыі яшчэ працягвалася роўная барацьба, а потым зноў усё стала на свае месцы. Да пастаўчан вярнулася іх атакуючая выніковая гульня першым тэмпам. Нядрэнна праявіў сябе ў стартавай шасцёрцы і малады Міхаіл Жалубоўскі на пазіцыях распасоўшчыка і ў атацы. Такім чынам, пастаўчане зноў атрымалі перамогу.

Пасля гэтага тура яны падняліся ў турнірнай табліцы на больш высокае, 4-е месца. У сярэдзіне лютага на сваёй пляцоўцы пастаўчане памераюцца сіламі з бліжэйшым канкурэнтам, сталічным “МАПІДам”. На старце першынства ў Мінску “Атлант-Д” двойчы быў мацнейшым, цяпер таксама “Атланту-Д” трэба дабівацца станоўчага для сябе выніку, каб прадоўжыць барацьбу за медалі ў другім па значэнні дывізіёне айчыннага валейбола. У гэтым сезоне добрыя шанцы на ўзнагароды ёсць, бо з асноўнымі сапернікамі пастаўчане будуць гуляць дома.

***Кастусь Александровіч.***

7 тур

АСДЗЮШАР – МГВАР - перанесены; Алімп – Легіён – 3:0, 3:1; БДУ – МАПІД - 3:1, 3:0.

**Турнірная табліца**

| | Г | В | Вт | П | Пт | А | П |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| БДУ (Мінская вобл.) | 14 | 11 | 2 | 1 | 0 | 37 | 33 - 10 |
| Легіён (Гродзенская вобл.) | 14 | 9 | 1 | 3 | 1 | 30 | 33 - 17 |
| Алімп (Кобрын) | 12 | 8 | 2 | 1 | 1 | 29 | 33 - 11 |
| Атлант-Д (Паставы) | 14 | 7 | 1 | 4 | 2 | 25 | 31 - 21 |
| МАПІД (Мінск) | 14 | 7 | 0 | 5 | 2 | 23 | 28 - 22 |
| Металург (Жлобін) | 14 | 4 | 0 | 10 | 0 | 12 | 14 - 25 |
| МГВАР (Магілёў) | 10 | 0 | 0 | 10 | 0 | 0 | 1 - 30 |
| АСДЗЮШАР (Гродна) | 12 | 0 | 0 | 12 | 0 | 0 | 1 - 36 |



Гэтаму спадару вельмі не пашанцавала на Масленіцу ў глыбоцкім супермаркеце! Здаецца, на касе, расплаціўся за ўсё... Выходзіць. Спрацоўвае сігналізацыя! Яго просяць вярнуцца назад, вывернуць кішэні. Вываорочвае. Скрадзенага, здаецца, няма. Ён пайшоў. Зноў спрацоўвае сігналізацыя. Яго вяртаюць назад. Паўтор выварочвання яшчэ большай колькасці кішэняў. Няма. Пайшоў. Зноў спрацоўвае сігналізацыя. Прыйшлося мужыку са штаноў, а можа, нават, і з трусоў, выцягваць бутэльку гарэлкі.

Дзіўна, але мужыка адпусцілі. А я думаў, што прыляцяць міліцыянты ў касках, бронекамізэльках ды з аўтаматамі Калашнікава. Не. Няўдачнік вельмі хуценька, апусціўшы галаву, пакінуў супермаркет.

Сапраўды, надзейная абарона ў супермаркеце ад дробных злодзеяў.

*Фота Ул. Скрабатуна.*

# У Беларусі будзе рэалізаваны праект, накіраваны на змену вобраза пажылога чалавека ў грамадстве і рэабілітацыю пацярпелых ад насілля

У Беларусі 16 лютага пачнецца серыя мерапрыемстваў, накіраваных на змену вобраза пажылога чалавека ў грамадстве і рэабілітацыю пацярпелых ад насілля.

Праект рэалізуецца ў рамках праграмы «Месца сустрэчы дыялог» у ходзе двухгадовага праекта «Значныя асобы: дыялог пакаленняў», які праводзіцца грамадскім аб'яднаннем «Радзіслава» пры падтрымцы германскага фонду «Памяць, адказнасць і будучыня» сумесна з міжнародным грамадскім аб'яднаннем «Узаемаразуменне».

Як паведаміла БелаПАН старшыня ГА «Радзіслава» Вольга Гарбунова, праект прадугледжвае працу тэлефона даверу па сталічным нумары (017) 280 28 11, псіхалагічныя кансультацыі, сустрэчы пажылых людзей для наступнай узаемадапамогі. Спецыялісты арганізацыі хочуць не толькі дапамагчы састарэлым людзям зразумець, што яны не адзінокія, але і арганізаваць дыскусійны клуб для наладжвання дыялогу паміж пакаленнямі. На сходы клуба псіхолагі запрашаюць моладзь і састарэлых людзей для абмену вопытам, абмеркавання актуальных праблем з розных пунктаў гледжання і барацьбы са стэрэатыпамі.

«Вывучаючы публікацыі ў друкаваных і інтэрнэт-выданнях, мы заўважылі, што праблемы пажылых людзей асвятляюцца беларускімі журналістамі недастаткова, як быццам не заслугоўваюць увагі аўдыторыі, лічыць Гарбунова. І тым не менш многіх з нас чакаюць адзінокія бабулі і дзядулі, якія лічаць дні з нашага апошняга візіту і маюць патрэбу ў нашым клопаце». Паводле яе слоў, таксама «ёсць і тыя, хто працягвае любіць сваіх родных, нягледзячы на тое што пакутуе ад насілля з іх боку». «Мы спадзяемся, што «Дыялог пакаленняў» пачуюць і састарэлыя людзі, і тыя, хто нясе за іх жыцці адказнасць усе мы», сказала Гарбунова.

Грамадскае аб'яднанне «Радзіслава» было створана ў 2001 годзе групай псіхолагаў, сацыяльных работнікаў, студэнтаў людзей, якія неабыякавыя да праблемы насілля ў грамадстве і ў сям'і, якія імкнуцца спыніць насілле і абараніць пацярпелых.

Супрацоўнікі і валанцёры арганізацыі аказваюць псіхалагічную, сацыяльную і інфармацыйную падтрымку асобам, пацярпелым ад насілля, і іх блізкім.

*Таццяна Дарашчонак, БелаПАН.*

# Распачата крымінальная справа ў дачыненні да намесніка дырэктара Бярэзінскага біясфернага запаведніка

Справа на падставе ч. 3 арт. 424 Крымінальнага кодэкса (злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі) распачата пракуратурай Лепельскага раёна (Віцебская вобласць) у дачыненні да намесніка дырэктара Бярэзінскага біясфернага запаведніка.

Як паведамілі БелаПАН у Генеральнай пракуратуры, кіраўнік падазраецца ў тым, што ў снежні 2007 года прычыніў урон дзяржаве на 52 млн. рублёў.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

